**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.
**Выдаецца са снежня 1994 года**
**№ 09 (830) 3 сакавіка 2016 года.**
**Кошт свабодны.**

*Са святам вясны і прыгажосці!*

Штотыднёвая газета
vglybokaye@tut.by
# Вольнае Глыбокае




Масленіца!
Фота Ул. Скрабатуна.



**Падача абвестак па тэлефоне № 166**



ISSN 2077-8023


Докшыцкі раён

# Прыклад, варты пераймання

■ Станіслаў Раманчук.

**Ад устойлівага развіцця жывёлагадоўлі ў многім залежыць эканамічнае становішча кожнай гаспадаркі на вёсцы і яе далейшыя перспектывы.**

Чарговую калегію аблсельгасхарчу новы намеснік главы Віцебскай вобласці па АПК Віктар Аскерка невыпадкова зрабіў выязной і правёў у Докшыцкім раёне. Спецыялістам галіны з усіх куткоў Прыдзвіння на справе паказалі, як пры не надта вялікіх затратах мясцовы райаграсэрвіс сваімі сіламі гаспадарчым спосабам перайтварыў старое памяшканне ў сучасную ферму на 780 кароў з даільным залай. У сельгаспрадпрыемстве "Таргуны", дзе пабывалі ўдзельнікі калегіі, таксама стварылі сваю будаўнічую брыгаду з 20 спецыялістаў. Яны ўжо ўзвялі першую чаргу новай фермы, 11-й па ліку ў гаспадарцы з добрымі ўмовамі ўтрымання рагуль і працы людзей. Пры належнай кармавой базе і захаванні тэхналогій пачаўся рост надояў малака і валавых прываг маладняку. Дарэчы, перад правядзеннем абласной нарады ў гэтай гаспадарцы падвялі вынікі дзейнасці сельгаспрадпрыемстваў краю ў мінулым годзе. Сёлета ў раёне вырашылі закончыць узвядзенне яшчэ трох новых малочнатаварных ферм з высокай ступенню гатоўнасці гэтых аб'ектаў. У свой час у цэлым па Віцебшчыне пачалі будаваць больш сотні ферм з даільнымі заламі, але з-за недахопу сродкаў яны патрапілі ў лік незавершаных аб'ектаў даўгабуду. Але зараз кіраўніцтва вобласці паставіла задачу да канца 2016 года пастарацца здаць у эксплуатацыю 39 ферм з высокай ступенню гатоўнасці аб'ектаў, як гэта пачалі рабіць у Бярэзінскім краі.

Пастаўскі раён

# Дымаход забойца

■ Кастусь Александровіч

**Нават пасля адступлення моцных халадоў па-ранейшаму працягваюць гарэць і гінуць людзі на пажарах.**

Вось і ў Паставах днём у выніку падобнага інцыдэнта загінула 75-гадовая пенсіянерка. Праўда, на адной з цэнтральных вуліц горада полымя не нарабіла ў невялікім доме памерам 6 на 8 метраў вялікіх страт памяшканню. У той дзень тут праязджаў брат пацярпелай, заўважыў моцны дым і вырашыў высветліць, што здарылася. Як на грэх, гэта жанчына вярнулася ў свой дом толькі напярэдадні, за дзень да бяды. Перад гэтым яна перанесла цяжкую хваробу, калі крыху паправілася, дачка забрала матулю да сябе перазімаваць, набрацца сіл. Аднак старой вельмі хацелася вярнуцца ў родныя сцены, што яна і зрабіла. На жаль, печка ў гэтым доме патрабавала рамонту з-за ўзнікшых трэшчын, а галоўнае – не быў ачышчаны, як трэба, дымаход. Па гэтай прычыне ў ім загарэлася сажа, пакой аказаўся моцна задымленым. Ад атручвання прадуктамі гарэння пастаўчанка страціла прытомнасць і ляжачы на падлозе, адышла ў іншы свет. Медыкі, якія прыбылі па выкліку, зафіксавалі факт смерці чалавека. За некалькі дзён да гэтага здарэння практычна ў такі самы час падобны пажар адбыўся ў вёсцы Вайцяхі. Тэксама з-за парушэнняў правіл эксплуатацыі пячнога ацяплення там хата запалала больш сур'ёзна, да моманту прыезду пажарных дах часткова абрушыўся. За адну гадзіну пажар быў патушаны, дом моцна пацярпеў, а яго гаспадар падлічвае страты, паколькі яго не было падчас узгарання. З пачатку года ў раёне адбылося ўжо 6 пажараў, загінуў адзін, а ў цэлым па Віцебшчыне ахвярамі агню стаў ужо 21 чалавек.

Полацкі раён

# Сцеражыся аўтамабіля

■ Чэслаў Якубовіч.

**Большасць беларускіх вадзіцеляў стараюцца захоўваць правілы дарожнага руху, але сярод іх сустракаюцца і ўнікальныя "дзеячы".**

Днямі ў цэнтры Полацка на праспекце К. Маркса гараджане ўбачылі сапраўднае цуда, бо аўтамабіль "Geely" рухаўся там увогуле па сустрэчнай паласе руху. Такую дзіўную язду заўважылі і супрацоўнікі мясцовага аддзела Дэпартамента аховы МУС, паведамілі аб здарэнні ў дзяжурную часць. Патруль міліцыі пачаў праследаванне , як потым высветлілася, даўняга іх знаёмага, які неаднаразова прыцягваўся да адміністрацыйнай адказнасці. Пенсіянера, пазбаўленага правоў, дагналі і спынілі толькі на старым полацкім мосце. Уцякач закрыўся ў сваёй машыне, а калі да яе падышоў капітан ДПС ДАІ, гора-вадзіцель зноў націснуў на педаль газу і зноў паспрабаваў уцячы, як у знакамітым эпізодзе савецкай кінакамедыі. Толькі на гэты раз далейшая пагоня праходзіла ўжо па вуліцах прыватнай забудовы горада на правым беразе Дзвіны. Бяспраўнік зрабіў на іх некалькі кругоў, пакуль яму не перагарадзілі далейшы шлях эвакуатар. Новую спробу парушальніка аб'ехаць перашкоду спынілі прыбыўшыя на дапамогу даішнікам супрацоўнікі Полацкага райаддзела міліцыі. Падчас разбору інцыдэнта высветлілася, што пенсіянер хоць і ўмее ня́драэнна вадзіць машыну, але ён не меў права сесці за руль, і панясе значную адказнасць пасля складання адразу 12 адміністрацыйных пратаколаў.

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Чацвер 03.03.16 | | | | Пятніца 04.03.16 | | | | Субота 05.03.16 | | | | Нядзеля 06.03.16 | | | | Пан. 07.03. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | -3 | -2 | 0 | -1 | -2 | -2 | +1 | 0 | -1 | -1 | +2 | 0 | -1 | +1 | +6 | +5 | +4 | +4 | +7 |
| Ціск | 740 | 741 | 742 | 743 | 742 | 741 | 739 | 739 | 739 | 740 | 742 | 743 | 742 | 741 | 741 | 741 | 740 | 737 | 738 |
| Вецер м/сек | 1 Ю-З | 0 ШТЛ | 2 Ю | 4 В | 3 В | 4 В | 2 С-В | 1 С-В | 1 С-З | 2 З | 3 З | 3 Ю | 5 Ю-В | 6 Ю-В | 6 Ю-В | 6 Ю-В | 5 Ю-В | 7 Ю-В | 9 Ю-З |
| Вільготнасць | 90 | 88 | 76 | 82 | 80 | 87 | 78 | 90 | 94 | 91 | 72 | 86 | 95 | 100 | 93 | 91 | 95 | 99 | 74 |

# Аб самым надзённым

## ЯШЧЭ БОЛЕЙ БЕЛАРУСЫ "ЗАЦІСНУЦЬ ПАЯСЫ" ПАСЛЯ ПАДАРАЖЭННЯ КАМУНАЛЬНЫХ ПАСЛУГ

■ Аляксандр Цішкевіч.

**Дасведчаныя людзі ўжо раяць суайчыннікам набываць насадкі аэратары на краны для эканоміі расходу вады і ставіць электронныя датчыкі руху ў калідорах, паўсюдна ў пакоях уключаць энергазберагальныя лямпачкі.**

Такім чынам жыве свет цяпер, што за ўсё людзям паўсюдна прыходзіцца плаціць, іншага проста не дадзена. Да нядаўняга часу нацыянальная эканоміка ў Беларусі, сапраўды, развівалася высокімі тэмпамі, штогадовы прырост айчыннага ВУП складаў нават каля 7%. Падчас такога вось эканамічнага цуда пры адсутнасці ў беларусаў рынкавых рэформ, у параўнанні з суседзямі, тарыфы на аплату жыллёва-камунальных паслуг былі самыя нізкія на кантыненце. Аднак, як рэзка ўсё змянілася ў іншы бок у паўсядзённым жыцці, а ў апошні дзень мінулага года былі падпісаны прэзідэнцкі Указ №535.

У адпаведнасці з гэтым нарматыўным дакументам, нам цяпер прыйдзецца плаціць яшчэ за ўборку і асвятленне свайго пад'езда, а ў жылых дамах з ліфтамі – яшчэ і за іх тэхабслугоўванне і за электраэнергію, затрачаную на рух гэтых кабін на верхнія паверхі. І ўсё б было добра, каб не надзённыя праблемы, якіх толькі прыбаўляецца ў дзяржавы і ў кожнага з нас. Ужо са студзеня сёлета "жыроўкі" на аплату паслуг ЖКГ прыкметна падаражэлі, бо тарыфы на водазабеспячэнне і ацяпленне павысіліся на 33%. На практыцы гэта азначае, што для самых багаценькіх у краіне мінчан кватрплата вырасла адразу больш чым на 150-300 тысяч рублёў у месяц, у залежнасці ад плошчы кватэры і колькасці пражываючых у ёй людзей.

Далей-болей, як нам ужо паведамілі, праз 10 месяцаў беларусы будуць кампенсіраваць палову затрат на камуналку. Да канца 2017 года Беларусь перайдзе на амаль поўную аплату гэтых паслуг у суме 75%, а яшчэ праз год ад сацыяльна арыентаванай дзяржавы практычна нічога не застанецца, бо аплата жылля стане 100% затрат камунальшчыкаў. Нагадаем, што раней глава дзяржавы абяцаў, што тарыфы калі і будуць павышацца, то не болей чым на 5 долараў у год, а камуналка будзе даражэць толькі з ростам зарплат і пенсій. Вось з апошнім у нас усё цяпер наадварот.

Да прыкладу, нават за аднапакаёвую кватэру, дзе прапісаны адзін чалавек, зараз трэба заплаціць каля паўмільёна рублёў. І якім чынам гэта можна зрабіць, калі толькі ў Віцебскай вобласці ў пачатку лютага шэраг гаспадарак яшчэ не разлічыліся са сваімі працаўнікамі за працу ў кастрычніку 2015 года, як адзначалася падчас штотыднёвай "прамой лініі" аблвыканкама. Становішча ўскладняецца яшчэ і тым, што вяскоўцы і іншыя жыхары глыбінкі не могуць па некалькі месяцаў атрымаць дзіцячыя дапамогі і нават дапамогі па цяжарнасці і родах. Акрамя паслуг ЖКГ кожнай сям'і трэба яшчэ нешта есці, адзявацца, купляць тыя ж лекі.

Давайце не забывацца, што ўсё болей прыбаўляецца беларусаў, якія добра калі атрымоўваюць без затрымак па 2,5-3 млн. рублёў пенсій і заробкаў нават у малых гарадах. І вось цяпер за кватэру такой сям'і з чатырохпяці чалавек прыйдзецца аддаць ужо мінімум пад 700 тысяч рублёў, а ў далейшым моцна эканоміць. Дасведчаныя людзі ўжо раяць суайчыннікам набываць насадкі аэратары на краны для эканоміі расходу вады і ставіць электронныя датчыкі руху ў калідорах, паўсюдна ў пакоях уключаць энергазберагальныя лямпачкі.

А вось кіраўнікі высокага рангу, напрыклад, прэзідэнцкі памочнік у Мінску А. Якабсон, прама сказаў, што цяпер патрэбна альбо паэтапна павышаць пенсійны ўзрост, альбо змяншаць сярэднюю зарплату па краіне, з якой прапарцыянальна разлічваюца памеры пенсій. На фоне яўнага пагаршэння жыццёвага ўзроўню ў нас таксама актывізавалі барацьбу з замежным шырпатрэбам, але ці хопіць у людзей грошай, каб набываць больш дарагое беларускае адзенне і абутак? Зразумела, што новыя павышаныя тарыфы ЖКГ большасці з нас не спадабаюцца, але ж куды дзецца ад новай рэальнасці.

Можна чакаць, што вырасце неўзабаве колькасць неплацельшчыкаў камунальных паслуг. Аднак пакуль для большасці беларускіх сем'яў новыя тарыфы ЖКГ застануцца пад'ёмнымі, яны іх будуць аплочваць у тэрмін, хоць больш збяднеюць і пачнуць жыць эканомна, не застанецца магчымасці рабіць зберажэнні на "чорны дзень", як гэта было напрыканцы самых галодных і бедных 90-х гадоў мінулага стагоддзя. Дагэтуль нават нашы суседзі і саюзнікі расіяне аплочвалі ў некалькі разоў болей за паслугі ЖКГ, а цяпер мы іх пачынаем даганяць па гэтаму паказчыку, а Расія па ўзроўню заробкаў абвалілася амаль да нашага ўзроўню. Мы ж пакуль са сваімі невялікімі даходамі ў Еўропе і нават пасля павышэння на 20% тарыфаў на газ знаходзімся разам з Расіяй і Казахстанам у тройцы еўрапейскіх краін, дзе самае таннае для насельніцтва "блакітнае паліва".

Дарэчы, што зараз асабліва турбуе, далейшыя перспектывы беларускай эканомікі незайздросныя. Нават беларускі прэм'ер-міністр А. Кабякоў заўважыў, што гэты год стане самым цяжкім, трэба рыхтавацца да яшчэ больш горшага развіцця падзей. З'явіліся паведамленні, што 50-60 значных прадпрыемстваў могуць сёлета абанкрудзіцца. Аднак такія факты з'яўляюцца сведчаннем таго, што жыць і працаваць па старому болей ўжо не атрымаецца, рэформы патрабуюцца і самой айчыннай жыллёва-камунальнай гаспадарцы. Дзяржава павінна дапамагчы за аплату жылля найбольш бедным сем'ям, а астатнія пачнуць плаціць значна болей, чым раней.

## Дзень за днём

**ЕС адмяніў большасць санкцый у адносінах Беларусі. Акрамя пошлін на інтэрнэт-пасылкі для беларусаў увялі абмежаванні на ўвоз тавараў з-за граніцы. У вядучых беларускіх банкаў знізіліся прыбыткі, банкаўскі сектар у 2016 годзе перажывае складаны перыяд. Базы дадзеных аб "дармаедах" будуць у Беларусі фарміраваць у аўтаматычным рэжыме. Імі добраахвотна прызналі сябе толькі 820 чалавек. ЦВК стварыў экспертную групу па вывучэнню рэкамендацый АБСЕ. Яшчэ на 18% падаражэў тэхагляд аўтамабіляў.**

# Важнейшыя навіны свету

**Сірыя.** Пракляты многімі Б. Асад заявіў, што возьме пад свой кантроль усю краіну, якая з 2011 года заліта крывёй і аказалася паўразбуранай, каля 5 млн. чалавек сталі ўцекачамі.

**Германія.** На міжнароднай канферэнцыі па бяспецы ў Мюнхене расійскі прэм'ер-міністр Д. Мядзведзеў прызнаў, што паміж Расіяй і Захадам пачалася зноў халодная вайна.

**Кітай.** Нягледзячы на праведзенае ўрадам краіны працяглае аслабленне нацвалюты юаня, аб'ёмы кітайскага знешняга гандлю за год рухнулі адразу на 11,2%, працягваюць падаць.

**Украіна.** Прэзідэнт П. Парашэнка назваў падзеі ў Данбасе не грамадзянскай вайной, а агрэсіяй Пуціна, салдаты якога акупіравалі маю краіну, санкцыі супраць РФ патрэбныя.

**Польшча.** Глава МЗС В. Вашчыкоўскі пацвердзіў, што краіна хоча аднавіць з Беларуссю нармальныя еўрапейскія адносіны, неўзабаве ён наведае Мінск з афіцыйным візітам.

**Боснія і Герцагавіна.** Еўракамісар ЕС па пашырэнню і палітыцы добрасуседства Й. Хан пацвердзіў, што заяўка краіны на ўступленне ў саюз атрымана, але гэта толькі пачатак.

**ЗША.** Упершыню ў гісторыі ў марскі паход на біяпаліве на 7 месяцаў адправілася баявая эскадра 7 флоту ЗША у складзе 3 эсмінцаў, крэйсера і баявога карабля падтрымкі.

**Бельгія.** У 17 дзяржавах еўразоны Еўрастат зафіксаваў летась найбуйнейшы з 2011 года рост эканомікі на 1,5%, аднак узровень беспрацоўя (10%) на кантыненце не змяніўся.

**Расія.** У выпадку адсутнасці рэформ Міністэрства фінансаў папярэдзіла расіян аб непазбежным зацяжным перыядзе стагнацыі і эканамічных праблем на працягу 15 гадоў.

**Грэцыя.** ЕС даў ураду краіны 3 месяцы на сур'ёзнае ўмацаванне сістэмы пагранічнага кантролю, інакш яе знешнія межы Еўрасаюз закрые на тэрмін да 2-х гадоў.

**Францыя.** Генсакратарыят Інтэрпола ў Ліёне адхіліў запыт Расіі аб аб'яўленні ў міжнародны вышук экс-главы "Юкаса" М. Хадаркоўскага з-за палітычнага праследвання.

**Узбекістан.** Прэзідэнт І. Карымаў зноў заявіў, што краіна ніколі не вернецца ў змрочныя савецкія часы рэпрэсій і абалваньвання людзей, не ўступіць у постсавецкія саюзы.

**Ізраіль.** Урад краіны зацвердзіў план стварэння ля Сцяны плачу ў Іерусаліме асобнай секцыі, дзе неартадаксальныя мужчыны і жанчыны змогуць маліцца разам.

**Аўстралія.** Вучоныя пацвердзілі, што на мысе Дэнісан у Антарктыдзе загінулі ўжо да 150 са 160 тысяч пінгвінаў з-за гігантскага айсберга, які перакрыў ім доступ да вады і рыбы.

**Галандыя.** Аналітыкі агенства Infostrada Sports заявілі, што ў Рыа-дэ-Жанэйра Беларусь чакае самая правальная ў гісторыі Алімпіяда, адкуль яе спартсмены прывязуць 7 медалёў.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Увядзенне лімітаў, як у XVI-XVII стагоддзях у Еўропе, на пакупкі за граніцай, заявіў аналітык В. Іасуб, толькі нашкодзіць беларускай неэфектыўнай эканоміцы.

**Брэст.** На пункце пропуску Макраны ўкраінскія актывісты сталі блакіраваць рух расійскіх фур па Украіне, рэзка павялічыліся чэргі і на беларуска-літоўскай граніцы.

**Салігорск.** У ліку 30 самых высокарэнтабельных ААТ краіны "Беларуськалій" загадалі пералічыць у дзяржбюджэт найбольшую суму 158,7 млрд. рублёў з прыбытку за 2015 год.

**Баранавічы.** На 558-авіярамонтным заводзе асвоілі рамонт і суправаджэнне знішчальнікаў Су-30СМ, якія прадасць Расія войскам СПА і ВПС Беларусі замест састарэлых МіГ-29.

**Мінск.** Эканаміст Я. Рапанчук заявіў, што беларусаў сёлета можа чакаць інфляцыя пад 30%, дэвальвацыя рубля 80%, падзенне зарплат да 200$, пенсій – да 70$, рост беспрацоўя.

**Гродна.** Пасля лячэння з абласной дзіцячай бальніцы выпісалі 41 вучня Раціцкай СШ, за выключэннем аднаго, якія атравіліся, узбуджана крымінальная справа, школу закрылі.

**Гомель.** Мытня не прапусціла ў Беларусь аўтобус, які вёз на міжнародны кніжны кірмаш у Мінску 175 кніг выдавецтваў Украіны, аднак адыёзныя рускія кнігі туды патрапілі.

**Мінск.** Расійскі крэдыт нам ужо не дапаможа, як папярэдзіў эканаміст У. Кавалкін, бо дзеючая мадэль развіцця эканомікі і людзі пры ўладзе вычарпалі свае магчымасці.

**Нясвіж.** Завод медпрэпаратаў звярнуўся ў Міністэрства аховы здароўя, каб з абарачэння знялі тры віды ягоных лекавых сродкаў з непажаданымі рэкцыямі ў пацыентаў.

**Слуцк.** Следчы камітэт пачаў праверку па заявах 24-х і 32-гадовай парадзіх, у якіх на працягу двух дзён памерлі ў мясцовым раддоме дзве даношаныя буйныя дзяўчынкі.

**Навагрудак.** Мінчанка, сведка інцыдэнта з патрулём ДАІ ля райцэнтра абвергла хлусню міліцыянераў, што затрыманы імі сілай кіроўца супраціўляўся і вёў сябе некарэктна.

**Мінск.** Філосаф У. Мацкевіч папярэдзіў, што ад сустрэчы Папы з Патрыярхам беларусам нічога добрага чакаць не трэба, бо РПЦ лічыць нашы землі сваёй кананічнай тэрыторыяй.

**Уручча.** Чатырох ваеннаслужачых-"дзядоў" суд пакараў рознымі тэрмінамі зняволення за сістэматычныя здзекі і збіццё маладых салдат у воінскай часці паблізу сталіцы.

**Мінск.** Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі арцыбіскуп Т. Кандрусевіч пацвердзіў, што пасля сустрэчы ў Гаване візіт Папы Рымскага ў Беларусь сёння стаў блізкі, як ніколі.

**Слуцк.** Ноччу ля вёскі Квасынічы абрушылася 26-метровая цагляная воданапорная вежа 1972 года пабудовы, людзі не пацярпелі, але без вады засталіся 130 дамоў і ферма.

**Мінск.** З-за фінансавых праблем у спонсара-алігарха Ю. Чыжа і яго холдынга "Трайпл" славуты сталічны футбольны клуб "Дынама" пакінулі адразу 14 вядучых ігракоў.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# За ўвоз тавараў звыш ліміту беларусы будуць плаціць не толькі пошліну, але і ПДВ




■ FINANCE.TUT.BY

**З 14 красавіка беларусам, якія перасякаюць мяжу больш за адзін раз у тры месяцы і ўвозяць тавар на суму больш за 300 еўра або вагой больш за 20 кілаграмаў, прыйдзецца заплаціць не толькі ўвазную мытную пошліну і мытны збор, але і падатак на дабаўленую вартасць. Як тлумачаць у ДМК, спаганяць ПДВ будуць не з кошту ўсяго тавару, а толькі з той яго часткі, якая перавышае ўстаноўленыя ліміты.**

Цяпер беларусы, незалежна ад колькасці перасячэнняў мяжы, могуць правезці для асабістага карыстання тавар на суму да 1500 еўра і вагой не больш за 50 кілаграм. Калі перавысіць гэтыя ліміты, то трэба заплаціць мытны збор у памеры 30% ад кошту тавару, але не менш за 4 еўра за адзін кілаграм, які перавышае вагу.

Але з 14 красавіка для тых, хто будзе перасякаць мяжу больш за адзін раз у тры месяцы, уводзяцца абмежаванні. Так, пры першай паездцы на працягу трох месяцаў застанецца ранейшыя ліміты і цяперашнія зборы за іх перавышэнне. Але пры другой і наступных паездках наземным транспартам на працягу трох месяцаў (незалежна ад мэты паездкі - камандзіроўка, шоп-тур, візіт да сваякоў ці падарожжа) без выплаты пошліны можна будзе завезці рэчы на суму не больш за 300 еўра або вагой не больш за 20 кілаграмаў.

За перавышэнне нормы трэба будзе заплаціць не толькі ўвазную мытную пошліну па стаўцы Адзінага мытнага тарыфу ЕАЭС (залежыць ад уласцівасцяў і характарыстык канкрэтнага тавару) і мытны збор (у эквіваленце 20 альбо 50 еўра), але і ўнесці яшчэ ПДВ.

- Тавары, якія перавышаюць устаноўленыя ліміты для правозу фізічнымі асобамі праз мяжу, не будуць ставіцца да тавараў для асабістага карыстання. У такім выпадку трэба будзе заплаціць мытны збор, пошліну і ПДВ, - растлумачылі ў Дзяржаўным мытным камітэце. Спецыялісты ДМК заваструюць увагу, што плацяжы будуць спаганяцца не з усяго тавару, а толькі з перавышэння лімітаў.

«Названыя вышэй плацяжы давядзецца заплаціць у дачыненні да тых тавараў, якія не ўкладваюцца ў ліміт тавараў для асабістага карыстання. Якія менавіта тавары аднесці ў гэты ліміт - вырашаць самому грамадзяніну. Ён можа пазначыць гэта ў сваёй дэкларацыі», - адзначаюць у ДМК.

Выплата ўсіх узносаў адбываецца ў беларускіх рублях у пераліку па курсе Нацбанка на дзень ўезду, кажуць мытнікі.

Адзначым, што пры перасячэнні мяжы авіятранспартам ліміты на тавары застаюцца ранейшымі - на суму да 10 000 еўра і вагой не больш за 50 кілаграм, незалежна ад колькасці паездак за мяжу.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** З сямі ранейшых разліковых цэнтраў ЖКГ створаць адзін, з другога паўгоддзя ён будзе налічваць плацяжы за камунальныя паслугі па ўсёй Віцебскай вобласці.

**Полацк.** Старшыня ТБМ А. Трусаў прапанаваў перанесці сюды сталіцу Беларусі з цеснага мегаполіса, як гэта зрабілі Казахстан і Бразілія, аб'яднаць яе ў адзін горад з Наваполацкам.

**Мёры.** Пробы пацвердзілі, што ў раёне загінула 27% азімага рапсу, пасеянага на плошчы 415 гектараў, а вось іншыя азімыя культуры з пасеяных 8758 га адчуваюць сябе нармальна

**Верхнядзвінск.** У ліку 8 прадпрыемстваў вобласці на продаж дзяржава выставіла поўнасцю дзяржпакет акцый ААТ завод "Інвет" з пасёлка Бігосава на мяжы з Латвіяй.

**Наваполацк.** Побач з горадам у пасёлку Міжрэчча ўрачыста адкрылі новы студэнцкі гарадок Полацкага дзяржуніверсітэта з 4-мя карпусамі юрфака і спортпедфакультэта.

**Ушачы.** У Дзяржаўную інвестыцыйную праграму на 2016 год уключылі заканчэнне ўзвядзення ў райцэнтры сёлета ФАКа "Юнацтва" з плавальным басейнам.

**Полацк.** З-за недахопу заказаў многіх работнікаў мясцовага будтрэста №22 пасля Новага года адправілі ў адпачынкі за "свой кошт", прастоі і ў іншых будаганізацый вобласці.

**Крулеўшчына.** Часовы паверараны ў справах Польшчы М. Хабрус узнагародзіў медалём "Pro Memoria" мясцовага ксяндза Ю. Бараўнёва за аднаўленне магілак польскіх салдат.

**Паставы.** Абласны архітэктурна-горадабудаўнічы савет зацвердзіў вынікі грамадскіх абмеркаванняў і планіроўку пабудовы ў райцэнтры другога касцёла Езуса Міласэрнага.

**Лепель.** У райбальніцу з апёкамі цела даставілі 75-гадовага пенсіянера, які быў у гасцях у вёсцы Стараселле і атрымаў траўмы падчас узнікшага ў доме днём пажару.

**Верхнядзвінск.** Супраць бацькі з сынам з вёскі Выдрыцкія распачалі крымінальную справу па факту незаконнай перавозкі дамоў збіжжа ў ДТЗ ласія, канфіскавана іх аўто.

**Глыбокае.** Адразу трое выхаванцаў мясцовай ДЮСШ М. Завадская, А. Катушонак і Г. Стадольнік (трэнер С. Сімановіч) сталі чэмпіёнамі вобласці па цяжкай атлетыцы.

**Віцебск.** Ураджэнца горада, 34-гадовага акцёра сталічнага тэатра імя Я. Купалы Арцёма Бародзіча, затрымалі за захоўванне і збыт марыхуаны, яму пагражае ад 5 да 8 гадоў турмы.

**Браслаў.** У рэанімацыю райбальніцы даставілі вадзіцеля джыпа "Гранд Чэрокі", які на перыкрыжаванні дарог у вёсцы Рубеж не справіўся з кіраваннем і перакуліўся ў кювеце.

**Орша.** Выхаванка мясцовай ДЮСШ Аліна Талай выдатна пачала сезон і перамагла на трох міжнародных турнірах у бегу на 60 метраў з бар'ерамі ў Аўстрыі, Германіі, Польшчы

*Служба інфармацыі "ВГ" (па матэрыялах інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

**"... На паўночны ўсход ад Нарачы, у раёне Дунілавіч, Шаркоўшчыны, Глыбокага, даўгалетніх больш, чым у Абхазіі, пад Ачамчырамі. Тут, праўда, няма адзіночных асоб, якія дажываюць да 140 – 150 год, але працэнт стогадовых вышэй, чым там".**

*Уладзімір Караткевіч, "Зямля пад белымі крыламі".*

# Памылася, лягла ў ложак і заснула назаўсёды

■ **Уладзімір Скрабатун**

**Які найбольшы тэрмін адведзены для жыцця чалавека?**

**Мы можам знайсці адказ у тэкстах з біблейскімі паданнямі, што людзі раней жылі ледзьве не тысячу гадоў... Мафусаіл, нашчадак Адама ў восьмым калене, паводле Старога Запавету, пражыў 969 гадоў. Найстарэйшы чалавек, які згаданы ў Біблii.**

**Але тое было да Патопу…**

***І сказаў Гасподзь Бог: ня вечна Духу Майму быць пагарджаным людзьмі, бо яны плоць; хай будуць дні іхнія сто дваццаць гадоў.***

**118-letni starzec**

W Głębokiem zamieszkuje rolnik Franciszek Zaremba, liczący 118 lat, który urodził się w 1817 r. Najstarszy ten człowiek Dziśnieńszczyzny, mimo starczego wieku cieszy się jeszcze dobrem ogół zdrowiem, wygląda dość czerstwo, lecz wzrok ma zupełnie słaby. W życiu nigdy nie chorował.

Według oświadczenia prawnuków Zaremba kilka lat temu chodził jeszcze o własnych siłach do kościoła, lecz obecnie poderwane starością nogi odmawiają mu już posłuszeństwa. Mimo to chodzi on jeszcze często w ciepłe dnie o kiju około swej zagrody.

Staruszek pamięta jeszcze dobrze powstanie 18831 r., a w 1863 r. należał do grupy powstańców, zorganizowanej w Głębokiem, która została rozbita przez wojska rosyjskie. Żyje on obecnie przy wnukach, którzy posiadają gospodarstwo rolne. Otaczają go oni pieczołowitą opieka.

**Zgon 109-letniej staruszki**

**W dniu 13 bm. zmarła w Głębokiem Marjanna Sitkowska, licząca 109 lat. Sitkowska cieszyła się dobrem zdrowiem i pamiętała dobrze czasy pańszczyzniane oraz ruch powstańczy w roku 1863. Ostatniego dnia jeszcze cerowała skarpetki, poczem umyła się, położyła się do łóżka i zasnęła na zawsze. Sitkowska od wczesnych lat dziecinnym znała żyjącego i cieszącego się dobrem zdrowiem mieszkańca Głębokiego, 118-letniego Franciszka Zarembę.**

**—I•I—**

**120-letni wyborca w Głębokiem**

**WILNO. Z Głębokiego donoszą, że w dniu głosowania przybyli do lokalu komisji wyborczej w Głębokiem celem oddania swych głosów dwaj najstarsi mieszkańcy powiatu Dziśnieńskiego: 120-letni Franciszek Zaremba i 115-letni Mikołaj Szarabajko.**

У 2006-м годзе аўтар гэтых радкоў наведаў вёску Старыя Шарабаі і сустрэўся са старажылам Уладзімірам Іванавічам Лілям, 1919 года нараджэння. Натуральна, нашая размова была аб гісторыі Старых Шарабаеў, аб легендарным аграноме Баляславе Лапыру, пра прыезд сюды прэзідэнта Рэчы Паспалітай Ігнацыя Масціцкага.

Чаму прэзідэнта зацікавілі Старыя Шарабаі? Амаль усю вёску Старыя Шарабаі спаліў тады ў попел моцны пярун… А прэзідэнт гэтым часам, як раз, быў з візітам па Віленшчыне, у маршруце было і Глыбокае… Завітаў да пагарэльцаў. Даў пазыку жыхарам Старых Шарабаеў на аднаўленне вёскі...

Шмат цікавага апавёў спадар Ліля, але вельмі запомніўся такі факт…

*– А ў Глыбокім,–* казаў Уладзімір Іванавіч Ліля,*– адзін чалавек пражыў 120 гадоў! Зарэмба было яго прозвішча.*

– А калі ён памёр?

*– У 1939-м годзе, як "нашы" прыйшлі. Ён памятаў прыгон. А ўжо век дажываў не з сынамі, а з унукамі. Гэта не жартачкі! Столькі пражыць! Ён жыў па Варшаўскай вуліцы, недалёка ад пажаркі. Зарэмбы лічыліся мяшчанамі, але зямлю таксама мелі. Гэтаксама, як і ў вёсцы, было ў іх тры палі [1].*

Прайшло з таго часу 10 гадоў… Часта мне прыгадваўся той Зарэмба, які пражыў 120 гадоў… А тут, раптам, мой калега краязнаўца Кастусь Шыталь натрапіў на публікацыі 1930-х гг.

Наша "абласная" газета **"Kurjer Wileński"** у №15 ад 16.01.1936 года, паведамляла:

**"Скон 109-гадовай старушкі**

13-га дня бягучага месяца ў Глыбокім памерла 109-гадовая Мар'яна Сіткоўская. Сіткоўская цешылася добрым здароўем і добра памятала часы прыгону, а таксама паўстнацкі рух 1863 года. Апошняга дня яшчэ цэравала[2] шкарпэткі, пасля чаго памылася, лягла ў ложак і заснула назаўсёды. Сіткоўская з ранніх дзіцячых гадоў ведала 118-гадовага Францішка Зарэмбу, жыхара Глыбокага, які цешыцца добрым здароўем".

Атрымліваецца, што Сіткоўская нарадзілася ў 1827 годзе, яшчэ ва ўніяцкім Глыбокім, калі жаночае імя Мар'яна было тут надзвычай папулярным. Паўстанне 1831 года яна памятаць не магла, бо мела 4 гады, а вось паўстацкі рух 1863 года – паўстанне Каліноўскага – памятала добра.

Далей – болей!

Той жа **"Kurjer Wileński"**, №284 ад 16.10.1936 года, піша:

**"118-гадовы старац.**

У Глыбокім жыве земляроб Францішак Зарэмба, якому 118 гадоў, ён нарадзіўся ў 1817 годзе. Гэта – найстарэйшы жыхар Дзісненшчыны, не зважаючы на стары век, яшчэ цешыцца наогул добрым здароўем, выглядае яшчэ досыць свежа, але зрок мае зусім слабы. У жыцці ніколі не хварэў.

Паводле сведчанняў праўнукаў, Зарэмба колькі гадоў таму хадзіў яшчэ ўласнымі сіламі да касцёла, але цяпер падарваныя старасцю ногі адмаўляюць яму ў паслухмянасці. Аднак ходзіць ён часта з кіем у цёплыя дні каля свайго двара.

Старац яшчэ добра памятае паўстанне 1831 года, а ў 1863-м г належыў да групы паўстанцаў, якая заарганізавалася ў Глыбокім, яна сталася разбітай расійскімі войскамі. Жыве ён цяпер пры ўнуках, якія валодаюць земляробчай гаспадаркай. Ахутваюць яны яго клапатлівай апекай".



**Францішак Зарэмба, найстарэйшы жыхар Глыбокага, паўстанец 1863 г.** ***Фота 1930-я гг.***

**Заўвага:** якасць паліграфіі здымка адпавядае арыгіналу.

Дарэчы, а Вы, спадарства, ведаеце: дзе хаваліся глыбоцкія паўстанцы 1863 года? Хіба што, і Францішак Зарэмба разам з імі? Вы не паверыце! У Лаўрынаўскім лесе!

Адшукалася адпаведная нататка ў газеце **"Słowo"**, Nr. 74 за 1936 год. Хоць нас цікавіць толькі Францішак Зарэмба, паўстанец 1863-га, але гэтую нататку варта працытаваць цалкам:

**"Гістарычныя помнікі з часоў напалеонаўскай вайны і паўстання 1863 г.**

**Глыбокае.** У лесе пад вёскай Лаўрынаўка ў Дзісненскім павеце знаходзяцца некалькі гістарычных аб'ектаў з часоў напалеонаўскай вайны і паўстання 1863 года, а менавіта: акоп непасрэднай абароны г. Глыбокага з 1812 г, калектыўная магіла французскіх жаўнераў, якія палеглі ў бітве з расіянамі за Глыбокае, а таксама пячора паўстанцаў 1863 года.

Гэтыя аб'екты ёсць яшчэ ў добрай захаванасці і павінныя быць аточаны апекай.

Як яшчэ адзін з важнейшых гістарычных помнікаў, што варта згадаць у Глыбокім – пакой у гмаху староства[3] (даўні кляштар а.о кармелітаў босых), у якім Напалеон у маршы на Маскву выдаў дэкрэт да Народу Польскага, у якім упершыню засведчыў, што ідзе вяявацца за вольную Польшчу".

Ого! Мемарыяльны пакой імператара Францыі ў Глыбокім! Пакой, натуральна, існуе і сёння, бо будынак яшчэ захаваўся, але які з іх?

Але, вернемся да Францішка Зарэмбы… Гэта яшчэ не ўсё наша апавяданне!

У 120 гадоў Францішак Зарэмба з'явіўся … на выбарчым ўчастку!

Газета **"Słowo"**, Nr. 311 за 1938 год паведамляе:

**"120-гадовы выбаршчык у Глыбокім.**

**Вільня.** З Глыбокага паведамляюць, што ў дзень галасавання прыбылі на ўчастак да выбарчай камісіі ў Глыбокім з мэтай аддання сваіх галасоў двое найстарэйшых жыхароў Дзісненскага павету: 120-гадовы Францішак Зарэмба і 115-гадовы – Мікалай Шарабайка".

А што далей? Згаданы вышэй Уладзімір Іванавіч Ліля, сцвярджаў, што Францішак Зарэмба памёр у 1939 годзе, "як нашы прышлі". Колькі ён пражыў? 1939-1817 = 122. Гэта значыць, што 121 поўных гадоў ён пражыў, дакладна!

Цікава, дзе ён пахаваны? На Копцеўцы? Можа хто ведае месца пахавання Францішка Зарэмбы?

Знайсці б! Можна тады і папрасіць глыбоцкія ўлады паднавіць надмагільны помнік, альбо паставіць новы – усё ж, як бы там не было, найстарэйшы жыхар Глыбокага і паўстанец 1863-га! І турыстам было б цікава паказаць!

Гэта ж вам не Мюнхгаўзен!

**Тлумачэнні:**

1. Адно поле – аралі і засейвалі, другое – "адпачывала", на трэцім – кароў пасвілі. А потым – "ратацыя".
**2.** Штопала (руск). Гэтае слова яшчэ прысутнічала ў мове глыбачан гадоў 20 таму.
**3.** Будынак, што сёння прылягае да царквы. У 1920-30-я гг – староства, г.зн адміністрацыя Дзісненскага павету.



# Памёр Леў Бялевіч – сябра глыбоцкага падпольнага Саюза Беларускіх Патрыётаў, вязень ГУЛАГа

**У Пецярбургу памёр Леў Бялевіч, колішні сябра глыбоцкай суполкі Саюза Беларускіх Патрыётаў – арганізацыі моладзі, якая мела на мэце пашырэнне беларускай культуры і ідэі незалежнасці Беларусі.**

За ўдзел у незалежніцкім руху Леў Бялевіч правёў каля дзесяці год у ГУЛАГу, але да сівой старасці застаўся патрыётам Беларусі.

Бялевіч адышоў у лепшы свет яшчэ ў снежні. Пра яго смерць мы даведаліся толькі зараз ад Антона Фурса, ягонага паплечніка па СБП.

*«Калі ў паваенны час нас было вельмі мала, то цяпер тысячы юнакоў і дзяўчат сьмела ідуць пад бел-чырвона-белым сьцягам, баронячы волю і незалежнасьць нашай краіны. Я веру, перамога будзе на іх баку»,* — казаў Бялевіч у інтэрв'ю Радыё Свабода ў 2006 годзе.

Цяпер засталося ў жывых пяцёра сябраў Саюза беларускіх патрыётаў.

Леў Бялевіч, нарадзіўся 10.3.1928 г у в. Багуцкія Дзісненскага павету Віленскага ваяводства, цяпер Мёрскі р-н. З восені 1944 г. вучыўся ў Глыбоцкім педагагічным вучылішчы.

Арыштаваны 8.2.1947 года.

На судзе над сябрамі СБП у Мінску, які адбыўся 16-20.6.1947, Льва Бялевіча асудзілі да 10 гадоў пазбаўлення волі.

Да лета 1948 знаходзіўся ў лагеры «Краснае ўрочышча» пад Мінскам, дзе працаваў на будаўніцтве Мінскага аўтамабільнага завода. Потым этапаваны ў Інцінскі (пазней Мінеральны) паправучо-працоўны лагер МДБ Комі АССР. Разам з паплечнікамі-землякамі (Васілём Супруном, Кастусём Шышэм, Васілём Шастаковічам) уваходзіў у зямляцкі гурток, які ўзяў на сябе ролю беларускага цэнтра ў сістэме лагераў вакол Інты. Вызвалены ў 1955 годзе. Рэабілітаваны Вярхоўным судом Беларусі 30.10.1992.

*Ул. Скрабатун.*

# Піць, альбо жыць? Вось у чым пытанне...

*Пакуль у хворага ёсць дыханне, кажуць, ёсць і надзея.*
*Цыцэрон*

*На гарэлку не толькі трацяцца грошы, часам апошнія; яна траціць сілы, здароўе, розум, забівае волю і гонар, атручвае дзяцей, выкідвае ... з працы, разбэшчвае душу.*
*Януш Корчак*

**Нядаўна Беларусь называлі самай пітушчай краінай у свеце. Потым Міністэрства аховы здароўя аспрэчыла гэты факт: наш люд сапраўды п'е многа, але да тытулу сусветных чэмпіёнаў не дацягвае. Звернемся да статыстыкі.**



**Фадзей Шымуковіч,** *педагог, г. Дзісна*

Згодна з вынікамі даследавання Гродзенскага ўніверсітэта толькі 6,6% гарадскіх мужчын і 17,1% гарадскіх жанчын практычна не ўжываюць алкаголь, а 63% і 57% (мужчын і жанчын) адпаведна "ласуюцца" некалькі раз на тыдзень. Прыкладна такая ж частотнасць і ў сельскай мясцовасці. Сукупны ўзровень на душу за год (у пераcкладзе на чысты спірт) 13,5 літра для мужчын і 4,8 літра для жанчын у горадзе, 21,4л (!) і 11,6л адпаведна на вёсцы.

Думаю, прыведзеная табліца не толькі зацікавіць, але і прымусіць задумацца над пытаннем: піць ці жыць? Улічваючы тую акалічнасць, што спірт вельмі добры разбавіцель не толькі для фарбаў, смол і другіх рэчываў, але і для печані, нырак, жоўці, страўнікавай залозы і, асабліва, мазгоў чалавека. Пасля п'янкі чалавек з мачой траціць частку сваіх мазгоў.

Бытуе думка, што алкаголь – адзін з самых прыбытковых відаў вытворчасці. У 1984 годзе мой родны брат на паўгода завербаваўся на сплаў лесаматэрыялаў у Цюменскую вобласць на раку Высюган, што з'яўляецца прытокам ракі Об. Для прафілактыкі ад эпідэміі ім штодзень выдавалі па 100г спірту-ратыфікату за 72 капейкі, калі ў краме 0,5 літра гарэлкі каштавала 22 рублі. Не цяжка падлічыць рэнтабельнасць вырабу спірту. Але ва ўсякім медалі – два бакі. Варта падсумаваць і страты. У 2013 годзе прыбытак ад продажу алкагольных напояў склаў 2,8 трыльёнаў рублёў, а расходы на барацьбу з п'янствам – 5 трыльёнаў рублёў. А хто і як кампенсуе маральныя выдаткі ў генафондзе, дэмаграфіі і г.д.?

Сёння мы на мяжы: піць ці жыць. Іншага выбару няма. Павінны дакладна зразумець і вызначыцца, што рабіць, – кажа эксперт ААН.

Цяга да наркотыкаў, у шэрагу якіх і алкаголь, навукова абумоўліваюць чатыры прычыны. Страта сэнсу жыцця і сацыяльнай несправядлівасці, даступнасць, папушчальніцтва з боку эліт, запраграміраванасць праз СМІ і мастацтва. Двайныя стандарты неспрыяльныя ў любой сферы. Немагчыма змагацца за здароўе нацыі і адначасова папаўняць бюджэт. Трэба не столькі змагацца з п'янствам, колькі выкараняць прычыны. Навука аб цвярозасці папярэджвае, што нараджальнасць і смяротнасць прапарцыянальныя вытворчасці і ўжыванню алкаголю. Так, у 1950 годзе ўжывалі 2л на душу, прырост у нараджальнасці – 135200 чалавек, 1985 год – 8 літраў на душу, баланс знізіўся да 59344 чалавек. Пры антыалкагольнай кампаніі ў час кіравання Гарбачова ўжо ў 1986 годзе прырост склаў 74335 чалавек. З 1993 года аб'ём спажывання стаў імкліва расці, смяротнасць перавысіла нараджальнасць, і на сённяшні дзень дэмаграфічная праблема – адна з самых вострых у Беларусі. "П'яная" бяда, асабліва піўная, хутчасна ахоплівае моладзь. Паводле сацыяльных апытанняў і сацыялагічных даследаванняў, 90% 16-гадовых школьнікаў ужываюць алкаголь. Праз набалеўшую прычыну памірае больш за 20% працаздольнага насельніцтва.

Літаральна два дні назад я атрымаў часопіс "Однако, жизнь" №1, 2016г. У ім цікавая інфармацыя Уладзіміра Жданава, прафесара, віцэ-прэзідэнта Міжнароднай акадэміі цвярозасці, старшыні агульнарасійскага руху "Трезвая Россия". Артыкул яго "Хто піва п'е – розумам не блешча". Ён сцвярджае, што ў чалавека ў галаве маецца такі маленькі орган, які называецца "гіпаталамус". Ён рэгулюе эмацыянальны стан. І вось гэты гіпаталамус аддае загад – і ў кроў выдзяляецца вялікай колькасцю рэчыва пад назвай "норадрэналін", які адказвае за адмоўныя эмоцыі. У чалавека эмацыянальны склад пагаршаецца, ён пачынае на сябе злавацца, таму што не можа хутка знайсці адказ на рашэнне нейкай праблемы, задачы, пачынае моцна думаць, разважаць, кратаць звілінамі... І ў нейкі момант часу – ён называецца ў фізіялогіі "мне азарэнне" – у чалавека ў работу ўключаюцца ўсе 15 мільярдаў нервовых клетак (нейронаў). І яны знаходзяць адказ! І чалавек спраўляецца з пастаўленай задачай, рашэнне якой у яго ў галаве не было. Але ён здолеў падключыць другую групу ведаў, якія ў яго галаве былі і дапамаглі яму знайсці дакладны ход рашэння.

Тут жа гіпаталамус аддае загад – і ў кроў выкідваецца вялікая колькасць сератаніну, які адказвае да дадатных эмоцый. І ў чалавека ў момант азарэння раптоўна падымаецца настрой, а потым ціхенька, не спяшаючыся, эйфарыя праходзіць. У час азарэння ў чалавека мільярды клетак мозгу пачынаюць працаваць, супрацїўленне скуры памяншаецца ў два разы і бачна, што ў яго ў галаве адбываецца нешта вельмі значнае і добрае. Вось гэта – элементарны акт творчасці, які ведае фізіялогія. Такія працэсы адбываюцца ў кожнага з нас у галаве, калі... Прабачце, але крыху пачакайце!



Ну, хопіць вас таміць! Увага! У чалавека, які адзін раз у два тыдні выпівае шклянку віна альбо кубак піва, на два тыдні блакіруецца работа гіпаталамуса! Такім чынам, гэты чалавек на два тыдні добраахвотна адарваў сябе ад творчай працы! Даруйце, але ён апусціўся да ўзроўню малпавага інтэлекта. Хоць у малпы, калі прыходзіць азарэнне, яна знаходзіць штосьці новае, а вось пітушчы чалавек можа карыстацца толькі сваім старым запасам ведаў.

А калі ён не адзін раз у два тыдні, а намнога часцей, ды ў большай колькасці смакуе алкаголь, то ў яго поўнасцю прападае здольнасць да творчай працы. І гэта тады, калі на планеце такі хуткасны тэхнічны прагрэс.

А зараз, шаноўны чытач, вельмі прашу папрацаваць над табліцай. Не проста для формы размясціў я яе, а каб на канкрэтным прыкладзе паказаць, што ў нас другога выбару няма, чым выбар піць, або жыць – няма, і не будзе. І яшчэ прашу звярнуць увагу на тую акалічнасць, што 90% 16-гадовых школьнікаў ужываюць алкаголь, і задумацца над праблемай, што з ВНУ мы атрымліваем спецыялістаў, якія не могуць творча працаваць па атрыманай прафесіі, а выпускнікам школ даюць атэстаты, што яны атрымалі сярэднюю адукацыю, пры наяўнасці "двоек".

Калі каго гэта праблема па-сапраўднаму кранула за душу, рэкамендую звярнуцца да часопісаў "Однако, жизнь" №23 і №24 за 2015г, №1 за 2016г.

| | Горад | Вёска |
|---|---|---|
| Ужыванне алкаголю некалькі разоў на месяц | 29; 25 | 19; 49 |
| Некалькі разоў на тыдзень | 63; 57 | 63; 40 |
| Кожны дзень | 1,3; 1 | 14; 7 |
| За адну выпіўку прымае 150-300г | 42; 12 | 36; 22 |
| -- ---------------------------- 300-500г | 24,5; - | 27; 13 |
| ------------------------------- больш 500г | 3; 3 | 16; - |
| Прызнаюць бескантрольнасць меры | 18; 7 | 46; 14 |
| Ужываюць сурагат | 5; 2 | 10; 1,5 |

Першая лічба – % мужчыны, другая – жанчыны.
Лічбавыя дадзеныя ў % да агульнай катэгорыі

## 1 сакавіка – Міжнародны дзень барацьбы з наркаманіяй і наркабізнасам

**Сёння наркаманія з'яўляецца бядой для ўсіх краін свету, колькасць тых, хто ўжывае наркотыкі, перавышае 200 мільёнаў чалавек.**

■ **Кацярына Волахава,** *урач-гігіеніст*

У Рэспубліцы Беларусь сітуацыя з наркаманіяй і незаконным абаротам наркотыкаў працягвае заставацца напружанай, але кантраляванай, дзякуючы цеснаму ўзаемадзеянню аховы здароўя, праваахоўных органаў і грамадзянскай супольнасці. У Рэспубліцы Беларусь на 1 студзеня 2016 года пад наглядам урачоў псіхіятраў-нарколагаў знаходзіцца каля 14,5 тысяч нарказалежных чалавек (на 5,7% менш, чым у 2014 годзе).

Надзвычай насцярожвае факт таго, што сучасныя наркатычныя сродкі здольныя сфармаваць наркатычную залежнасць літаральна за некалькі прыёмаў. Наступствы гэтага захворвання надзвычай небяспечныя, так як адбываюцца грубыя парушэнні функцый унутраных органаў, нервовай сістэмы і дэградацыя асобы. Наркаманы схільныя да рызыкі заражэння і спрыяюць распаўсюджванню ВІЧ-інфекцыі, вірусная гепатыту, венерычных хвароб і іншых небяспечных інфекцыйных захворванняў. Таксама апошнія гады было зарэгістравана павелічэнне колькасці смяротнасці грамадзян ад перадазіровак наркатычнымі сродкамі (у 2014 годзе – 53 чал., у 2013 годзе – 83 чал.).

Наркаманія ўяўляе пагрозу жыццю і здароўю не толькі для асобнага чалавека. Яна ўяўляе небяспеку для ўсяго грамадства. Большасць наркаманаў не працуе, паколькі яны здольныя да працоўнай дзейнасці толькі ў пачатку захворвання і, у большасці выпадкаў, толькі ў стане наркатычнага ап'янення.

Акрамя таго, што наркаманія прыводзіць да фізічнай, маральнай і сацыяльнай дэградацыі асобы, яна штурхае «людзей, якія страцілі сябе» і страчаных людзей на злачынствы. Наркаманію варта разглядаць як бедства, супраць якога грамадства павінна ўзвесці непераадольны бар'ер.

Праблема распаўсюджвання наркаманіі займае не апошняе месца і ў ліку прычын высокай смяротнасці, нізкай нараджальнасці і недапушчальна нізкай сярэдняй працягласці жыцця ў краіне.

Варта адзначыць, што ў апошнія гады шырокае распаўсюджванне атрымалі так званыя «спайсы». Гэта асаблівыя курыльныя сумесі, у склад якіх уваходзяць травы і сінтэтычныя рэчывы, іншымі словамі сыравіну ў выглядзе цалкам бяспечных курыльных траў апрацоўваюць моцнадзейнымі псіхатропнымі рэчывамі, якія і выклікаюць некантралюемыя рэакцыі. Самае страшнае, што паводле дадзеных, асноўным кантынгентам з'яўляюцца дзеці ва ўзросце ад 13 да 20 гадоў.

Тут самае галоўнае - нікому не заставаццa раўнадушным і абыякавым і не думаць, што гэта мяне не тычыцца. Калі Вы ведаеце аб незаконным распаўсюдзе або захоўванні наркатычных рэчываў, то неадкладна звяртайцеся ў міліцыю па нумары 102 і паведаміце аб правапарушэнні. Калі дапамога патрэбна Вам ці блізкім вам людзям у барацьбе з нарказалежнасцю, то таксама звяртайцеся па дапамогу ва ўстановы аховы здароўя.

